© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

28 студзеня – 3 лютага 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
Цана ў розніцу 50 руб. (50 000 руб.)
№ 4 (249)

НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ

| | Субота, 29 студзеня | | Нядзеля, 30 студзеня | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | -2° – -9°C | -2° – -5°C | -3° – -8°C | -2° – -4°C |
| Удзень | 0° – -6°C | 0° – -3°C | -5° – 3°C | 0°C |

СМАРГОНЬ

## Смаргоншчына – на другім месцы

Па выніках спаборніцтва па добраўпарадкаванні, якія падвеў Гродзенскі аблвыканкам, у ліку пераможцаў у сваіх групах аказаліся вёскі Кушляны і Солы, якія атрымалі дыпломы і адпаведна 20 і 40 мінімальных зарплат у якасці прэміі.

Смаргонь сярод гарадоў абласнога падпарадкавання заняла другое месца пасля абласнога цэнтра і атрымала дыплом другой ступені і 60 мінімальных зарплат.

*Павел МАКЛЮК.*

ВІЛЕЙКА

## Раён вучыцца ў вобласці

У аўторак старшыня райвыканкома **Іван Шнітоўскі** ў калгасе імя Ленінскага камсамола правodзіў выязное пасяджэнне сваёй "вертыкалі". У прыватнасці, ён зацвердзіў праграму развіцця гаспадаркі.

Гэта быў першы такі выезд мясцовых чыноўнікаў "на месца" ў бягучым годзе. Такая форма работы, мусіць, будзе выкарыстоўвацца пастаянна. А пераняттая яна ў "старэйшых таварышаў" з вобласці.

*Алена ІРЫСАВА.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Новы маршрут у 6-ы мікраraён?

Гарадскімі ўладамі і кіраўніцтвам аўтапарка плануецца ўвядзенне дадатковага аўтобуснага экспрэс-маршруту з 6-га мікраёна. Тэрміны залежаць, у асноўным, ад таго, калі будуць адрамантаваныя аўтобусы, якія цяпер знаходзяцца на капітальным рамонце ў Гомелі.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

ВАЛОЖЫН

## У 3 разы павялічваюцца расцэнкі за пражыванне ў гасцініцы

У старым двухпавярховым будынку гарадской гасцініцы 31 месца. Адзіны нумар "люкс" цяпер каштуе 1176 рублёў у суткі, аднамесныя – 904 рублі. Самыя танныя – ложак-месца ў пяцімесным нумары – каштуюць па 640 рублёў.

Для замежных грамадзян цэны ў 5 разоў вышэйшыя.

Праўда, і раней, і цяпер гасцініца амаль пустуе. Бываюць дні наогул без пастаяльцаў. Так што павелічэнне цэнаў вялікі прыбытак наўрад ці прынясе.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

МЯДЗЕЛ

## Відэапаляванне за майстрамі

Пры Крывіцкім цэнтры рамёстваў адроджаны клуб аматараў відэа "Відэакадр". Ягоная мэта – захаваць на стужцы сакрэты народных майстроў.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Трэці раз – выніковы

У сераду адбылося пашыранае пасяджэнне райвыканкома з удзелам першых асоб і службаў Мінскага абласнога выканаўчага камітэта. Дагэтуль тэрмін правядзення такога прадстаўнічага пасяджэння два разы пераносіўся.

Перанос адбываўся, мусіць, таму, што вобласць давала час новаму старшыні **Леаніду Зайцу** дэталёва азнаёміцца са справамі ў раёне. У выніку – з цяжкасцю зацверджаная праграма развіцця раёна на бягучы год. Адзначана, што папярэднік цяперашняга старшыні пакінуў кепскую спадчыну; вялікія нараканні выклікаў стан гарадской гасцініцы.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ–АШМЯНЫ

## Долары для канадскага хлеба

Савет Міністраў і Нацыянальны банк прынялі рашэнне аб вызваленні "у выглядзе выключэння" шэрагу суб'ектаў гаспадарання Гродзенскай вобласці ад абавязковага продажу валюты на агульную суму 21 мільён 400 тысяч долараў ЗША.

У спіс вызваленых ад абавязковага продажу ўвайшлі больш за 20 прадпрыемстваў. Гэта, у прыватнасці, смаргонскі і ашмянскі камбікормавыя заводы, ашмянскі мясакамбінат.

Вызваленыя ад абавязковага продажу валютныя сродкі павінны быць накіраваны на аплату збожжа, якое пастаўляецца ў рэспубліку на падставе дагавора ад 8 снежня 1999 года, заключанага адкрытым акцыянерным таварыствам "Гроднахлебапрадукт" з кампаніяй "Карлінгтан сэйлз компані" (Канада).

*Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.*

МІНСК

## Канцэпцыя Нацыянальнага ўніверсітэта

Прадстаўнікі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (ТБМ) завяршаюць работу над канцэпцыяй стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта (БНУ). Як паведаміў БелаПАН старшыня таварыства Алег Трусаў, аўтарская група па распрацоўцы канцэпцыі плануе напачатку лютага прадставіць яе грамадскасці, а да лета – распрацаваць статутныя дакументы будучай ВНУ.

*Больш падрабязна — у наступным нумары.*



Таццяна Санько – самая жыццярадасная з Таццян рэгіёна.
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

# Імя выбраў Пушкін

МАЛАДЗЕЧНА. Каля года **Таццяна Санько** лячылася. Яна трапіла ў аўтамабільную катастрофу, і доўгі час не магла самастойна рухацца, нанова вучылася хадзіць. І толькі нядаўна мініяцюрная вясёлухa адчула сябе здаровай.

У аўторак ад віншаванак ёй не было адбою. А дома 10-гадовыя двайняты Ілья і Ксенія, Таніны брат і сястра, падарылі намаляваныя фарбамі кветкі.

– У бацькоў была дамоўленасць: мацi дае імя хлопчыку, тата – дзяўчынцы, – гаворыць старшы падатковы інспектар Таццяна Санько. – Нарадзілася я. Прадугледжаны былі два імені – Ларыса і Таццяна. Але тата захапляўся Пушкіным – нават хадзіў па кватэры і дэкламаваў:

Татьяна, русская душою,
Сама не зная, почему,
С ее холодною красою
Любила русскую зиму...

Т. Санько скончыла Мінскі фінансава-эканамічны тэхнікум, беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт. Таму студэнцтва адчула на сабе ў поўнай меры.

– 25 студзеня пра нейкія лекцыі не магло быць ніякай размовы, – гаворыць Таццяна, – выкладчыку тэхнікума Таццяну Шунько аднойчы так на занятках у гэты дзень загаварылі, што ёй потым два дні галава балела. У студэнцкім асяроддзі Таццянам тады абавязкова дарылі жартоўныя рэчы. 25 студзеня трэба афіцыйна зрабіць нерабочым днём для ўсіх студэнтаў і Таццян.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

*25 студзеня многія адзначаюць як Дзень студэнта. Яшчэ ў XVIII стагоддзі расійская імператрыца Лізавета II у гэты дзень падпісала ўказ аб адкрыцці Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта. А таксама 25 студзеня лічыцца і Днём усіх Таццян. Як адзначылі гэты дзень іншыя Таццяны, чытайце ў нашым традыцыйным фотаапытанні на 5-й стар.*

ГРЫП

# Панядзелак – дзень цяжкі. І шкодны для здароўя

ВІЛЕЙКА. Менавіта ў панядзелак у раён прыйшоў грып: за першы дзень тыдня зарэгістравана 8 выпадкаў захворвання. Зразумела, колькасць хворых штодня будзе ўзрастаць у геаметрычнай прагрэсіі.

Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі разаслаў па арганізацыях і ўстановах (цырульнях, школах, аб'ектах грамхарчу) прадпісанні аб падрыхтоўцы да эпідэміі. У прыватнасці, трэба мець дастатковую колькасць сродкаў для дэзінфекцыі, падрыхтаваць 4-слойныя марлевыя маскі. Узмацняецца рэжым праветрывання, у кінатэатрах падаўжаецца час паміж сеансамі.

Калі раней медустановы раёна інфармацыю пра захворваемасць давалі ў цэнтр гігіены і эпідэміялогіі раз на тыдзень, то цяпер даюць штодзённа. Аднак пакуль ні вілейскія, ні мінскія эпідэміёлагі не могуць сказаць, які тып віруса пачынае "касіць" насельніцтва. Эпідэміі пакуль няма, ды і на лабараторныя даследаванні віруса патрэбны нейкі час.

МАЛАДЗЕЧНА. У медустановах горада аб'яўлены каранцін. Да хворых у стацыянар не пускаюць нават у белым халаце. Ля ўвахода ў гарадскую бальніцу дзяжураць навучэнкі II курса медвучылішча. Падчас практыкі ім даверылі ажыццяўляць прапускны рэжым.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

Як супрацьстаяць грыпу, чытайце на 2-й стар.



Дзяўчаты з маладзечанскага медвучылішча на "антыгрыпозным" варце ў гарадской бальніцы.
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



СТАРЫ АЛЬБОМ




ФОТА З ФОНДАЎ МІНСКАГА АБЛАСНОГА КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ.

# А ў нядзелю елі марожанае...

На адваротным баку паштоўкі з відам першай настаўніцкай семінарыі на тэрыторыі сучаснай Беларусі, што працавала ў Маладзечне (чытай публікацыю Міхася Казлоўскага "Галасы разбуджаных птушак" у дадатку да "РГ" "Куфэрак"), жаночай рукой выведзена:

"Милые детки! Как я была довольна, что получила от Вас письмо, а главное, меня радовало содержимое письма. Приезжайте не только так, чтобы пред воскресеньем или субботой. Вчера, т.е. в понедельник, получила письмо от А. Он пишет, что Машенька его разрешает ему ехать в Молодечно. Мне за проезд дают 23 руб. 70 коп. Стол у нас ничего. Обед из трех блюда, но не всегда. В воскресенье было 3–е блюдо мороженое".

На апошнім слове фраза абрываецца, магчыма, працяг быў на асобным аркушыку, ці іншай паштоўцы. Мы нічога не ведаем ні пра аўтара тэксту, ні пра адрасатаў, "мілых дзетак". Але так ці інакш, зразумела, што гэта пасланне напоўненае цёплымі прыязнымі адносінамі паміж блізкімі людзьмі, магчыма, сваякамі.

У гэтым будынку сёння месціцца цэхі станкабудаўнічага завода.

Фота да 1917 года.

*Мікола ГАЙДУК.*

СЯМ'Я–2000



КАЛАЖ АЛЕНЫ ЯЎТРАШЫНАЙ.

# Наташа і Алег пазнаёміліся ў Вілейцы. У Маладзечне ўшаноўвалі іх першынца

*МАЛАДЗЕЧНА. Першы чалавечак, што нарадзіўся ў горадзе ў 2000 годзе, — Кірыл Нехвядовіч. Першага студзеня ў 5.25 медыкі павіншавалі маладую маму з нараджэннем сына.*

Немаўлятку чакалі на тыдзень пазней. Магчыма, Кірылу проста захацелася паглядзець на свята, якое дарослыя называюць Новы Год. А тое, што ён будзе менавіта Кірылам, будучыя бацькі даўно для сябе вырашылі; калі б нарадзілася дзяўчынка, яна была б Ангелінай.

**Тата, Алег Нехвядовіч:**

– У нас не было спрэчак наконт імя. Нават запасныя варыянты не прадугледжвалі. На маю думку, Кірыл і Ангеліна – гучныя прыгожа.

**Маці, Наталля Нехвядовіч (у дзявоцтве Капцюг):**

– На "УЗІ" я не хадзіла, таму да апошняга не ведалі, хто ж народзіцца. Калі шчыра, хацелі сына.

"Бутузік" важыў 3900. У ноч, калі ўсе сядзелі ля тэлевізараў, пераключалі каналы ў пошуках лепшых эстрадных нумароў навагодніх "агеньчыкаў", Алег дзяжурыў на тэлефоне, нерваваўся. Бутэльку шампанскага ён адкаркаваў пад 6 гадзін раніцы.

Пазнаёміліся будучыя тата і мама ў Вілейцы. Алег авалодваў там спецыяльнасцю механіка–вадзіцеля, Наташа вучылася на прадаўца. Штодня разам ездзілі на занятакі. Неўзабаве Алег пайшоў у армію, а Наташа ўладкавалася на работу ў магазін "Елгава". Стасункі падтрымлівалі цёплымі, па маладосці наіўнымі лістамі. Кожны пісаў па 2–3 разы на тыдзень.

А потым было вяселле, вянчанне ў царкве па вуліцы Будаўнікоў. Стаж знаёмства ў гэтай пары 4 гады. Плюс год жыцця ў шлюбе.

– Мая Наталля вясёлая, дамашняя, – гаворыць Алег, – першая страва, якую яна самастойна згатавала, – смажаная курыца. Спецыяльна для мяне старалася. Але гэта было даўно. Цяпер пірагі выпякае.

Напрыканцы мінулага тыдня ў аддзеле ЗАГС нараджэнне Кірыла ўрачыста рэгістравалі. Ад гарвыканкома маладой сям'і падарылі пральную машыну, акцыянернае таварыства "Юнона" – камплекты адзення уласнай вытворчасці, СП "Чысць–Баў", дзе тынкоўшчыкам працуе Алег, – пыласос.

– Няхай Кірыл расце працалюбівы, як тата, і прыгожы, як мама, – пажадаў дырэктар СП Аляксандр Барысаў.

– Я не супраць паўдзельнічаць у такіх мерапрыемствах, – гаворыць дырэктар АТ "Маладзечнагандаль" Мікалай Вінікаў. – А што, праз нейкія 20–30 год – вяселле Кірыла. Буду ўдзячны, калі і мяне на іх запрасяць.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

СМАРГОНЬ: СУВЯЗЬ, ТРАНСПАРТ, БУДАЎНІЦТВА

## АТС прыраслі на 1200 нумароў

СМАРГОНЬ. За мінулы год у Смаргоні сетка трох АТС расшырылася на 1200 тэлефонных нумароў, 950 іх устаноўлена на кватэрах і ў дамах прыватнага сектара. А на вёсцы жыхары атрымалі 240 нумароў.

## Няма папер для будаўніцтва

СМАРГОНЬ. 319 кватэр меркавалася ўвесці ў строй у горадзе летась. Увялі прыкметна менш – каля 250. Асноўныя прычыны – фінансаванне з перабоямі і недахоп... дакументацыі на пачатак будаўніцтва.

Сёлета сітуацыя чакаецца горшая, бо намнога скарачаецца выдача крэдытаў.

## Канфлікт пасажыраў і аўтобусаў

СМАРГОНЬ. За мінулы год цэны на ГЗМ выраслі ў 7,4, на дызпаліва – у 7,7, а на запчасткі да аўтобусаў – у 9 разоў. Каб пазбегнуць канчатковага банкрутства аўтапарка №17, які атрымаў пры нават узросшых датацыях 10,5 мільярда рублёў страт, вырашана скарацiць колькасць маршрутаў. Ужо зняты два прыгарадныя ў выхадныя дні, тры – у рабочыя. Некаторыя маршруты скарацілі па адлегласці.

Яшчэ адно выйсце – узняць (да рэальнай) цану на праезд, аднак гэта пры нашых зарплатах уяўляецца немагчымым.

*Павел МАКЛЮК, аддзел інфармацыі.*

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

## Не спадабаліся грошы

*ВІЛЕЙКА. Шмат год збіралі калекцыю папяровых грошай супрацоўнікі начнога бара. Чаго тут толькі ні было: ад амерыканскага долара да мангольскага тугрыка. І нават падораны аўтарам білет МММ з выявай Маўродзі. Усяго каля 100 экземпляраў.*

Гэтая калекцыя добра ўпісвалася ў інтэр'ер бара, да таго ж, несла асветніцкую функцыю. Амаль кожны наведвальнік пытаўся, адкуль тая ці іншая купюра. Калекцыю нават хацелі купіць.

Пасля нядаўняга наведвання Вілейкі чыноўнікамі з Мінска пачаліся змены. У прыватнасці, загадана ўбраць грошы – як непатрэбнае "смецце".

*Ігар КІЦІКАЎ.*

АНТЫГРЫП

# Мой цыбульны тата

## «Цыбуля і зімняя рыбалка — панацэя ад грыпу», — так лічыць наш герой

МАЛАДЗЕЧНА. Работнік дзяржаўнага жыллёва–рамонтнага эксплуатацыйнага прадпрыемства **Аляксандр Бабёр** ніколі не хварэе. Калі быць дакладным, за апошнія 10 год ніводнага з, напрыклад, вірусаў грыпу на сабе не выпрабаваў. Ягоная медыцынская картка ў рэгістратуры палiклінікі "худая" і белая.

Можа, прырода Аляксандра загартавала, бо, калі вучыўся ў СШ №5, трэба было толькі ў адзін бок пераадолець 12 кіламетраў. Ды і жыццё ў бацькоўскай хаце, што ў Даманаве, адрознівалася ад таго, як бавілі час гарадскія.

А можа, уся справа ў кулінарных захапленнях Аляксандра – падта ён любіць цыбулю. І любіць есці яе, нібы яблык, "без усяго": 5–6 вялікіх цыбулін за дзень схрумстае. Каля горада ў дачным кааператыве Масцішча ёсць яго персанальныя 2 соткі пад цыбулю.

Дома слабасць Аляксандра разумеюць і надта за яе прэтэнзіі не выстаўляюць. Жонка Вольга сама штодня сутыкаецца з цыбуляй, бо працуе поварам у школе. А дзеці Яўгенія – Аляксей і Маша – жартам клічуць тату "цыбульным". Дарэчы, увесь ураджай захоўваецца ў кватэры. Можа, каб заўсёды пад рукою быў.

Аляксандр – аматар зімовай рыбалкі. Тым болей, работа дазваляе па тры разы на тыдзень ездзіць на рыбу. Апошнім часам зачасціў на Вілейскае вадасховішча. Тыдзень таму, напрыклад, 5 кілаграмаў падлешчыкаў прывез. Калі цэлы дзень пасядзіш на лёдзе, здаровую ўсмешку выклікаюць парады медыкаў:

– Часцей бывайце на свежым паветры!

Аляксандр перакананы: цыбуля і свежае паветра не пусцяць у арганізм ніводнага віруса. Пра нейкі грып няма чаго і казаць.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

P. S. Чытачоў "Рэгіянальнай газеты" запрашаем падзяліцца сваімі "фірменнымі" прыёмамі антыгрыпу. Адзін з работнікаў рэдакцыі, прыкладам, ратуецца тым, што ці не з любой стравай ужывае ў вялікіх колькасцях востры перац.

*ГРЫП – цяжкая вірусная інфекцыя. Назва пайшла з французскай мовы: грып – хапаць, авалодваць. За 1 гадзіну хворы можа заразіць да 100 чалавек.*

*СТАТЫСТЫКА. За апошнія 4 гады ў Беларусі ад грыпу памерла 39 чалавек. У Англіі, напрыклад, разоў у 20 болей. Праўда, у нас не ўлічваюцца выпадкі, калі смерць надыходзіць з–за ўскладненняў на органы пасля грыпу.*

*ПАРАДЫ. Калі да вас яшчэ не завітала інфекцыя і вы не хочаце ў мэтах прафілактыкі грызці цыбулю, ужывайце што вам падабаецца: урачы раяць моркву, капусту, журавіны, буракі; рэкамендуецца штодня выпіваць да трох літраў салодкіх цёплых напояў. Будзьце здаровыя!*



Дзённы рацыён Аляксандра.

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.



© PDF: Kamunikat.org 2019 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019



АЎТА–МОТА

# Замена вадзіцельскага пасведчання старога ўзору на новае РБ не абавязковая

*МАЛАДЗЕЧНА. Пытанні пра замену вадзіцельскага пасведчання хвалююць аўтааматараў і шафёраў—прафесіяналаў. Менавіта таму мы папрасілі адказаць на пытанні "РГ" старшага дзяржаўтаінспектара міжраённага рэгістрацыйна—экзаменацыйнага аддзялення (МРЭА) ДАІ Маладзечанскага ГРАУС Валерыя Лужынскага.*

– Апошнім часам па пытаннях замены вадзіцельскага пасведчання ў МРЭА ДАІ звяртаюцца многія – тэлефануюць, прыходзяць. Таму тлумачу: замена вадзіцельскага пасведчання старога ўзору былой саюзнай дзяржавы на новае РБ на сёння не абавязковая, і яно сапраўднае на ўсёй тэрыторыі краіны. Іншая справа, што пасведчанне, як і любы іншы дакумент, павінна знаходзіцца ў добрым стане, каб работнікі ДАІ пры праверцы ўпэўніліся ў яго сапраўднасці і не ўзнікала ў вас у далейшым ніякіх праблем. У тым ліку, і пры выездзе ў Расію. Выснова: калі ў каго пасведчанне знаходзіцца ў непрыгодным стане – замяніце.

**– А якія дакументы патрэбныя для замены?**

– Заява ўстаноўленай формы; пашпарт ці іншы дакумент, які пацвярджае асобу грамадзяніна і яго прапіску; вадзіцельскае пасведчанне з талонам; вадзіцельская картачка ці пацверджанне РЭА ДАІ аб атрыманні вадзіцельскага пасведчання; для індывідуальных уладальнікаў пасведчанне аб рэгістрацыі (тэхпашпарт) транспартнага сродка, які належыць ім на праве асабістай уласнасці, ці даверанасць на права кіравання ім, ці пасведчанне аб праве агульнай уласнасці на транспартны сродак (пры гэтым даверанасць ці пасведчанне аб праве агульнай уласнасці прад'яўляюцца разам з рэгістрацыйнымі дакументамі на транспартны сродак адпаведнай катэгорыі; для працуючых вадзіцеляў – завераная выпіска з працоўнай кніжкі і даведка з месца работы з указаннем тыпу і нумарнога знака замацаванага транспарта (пры гэтым тэрмін дзеяння ўказаных дакументаў для індывідуальных уладальнікаў і працуючых вадзіцеляў у дзень прад'яўлення павінен складаць не менш як апошнія 3 месяцы); даведка медыцынскай камісіі аб прыгоднасці да кіравання адпаведнымі катэгорыямі транспартных сродкаў; квітанцыі банка аб уплаце ўстаноўленых збораў.

**– У якія дні праводзіцца прыём дакументаў на замену вадзіцельскіх пасведчанняў?**

– Чацвер-пятніца з 8.30 да 10.30; субота – з 8.00 да 10.00 у кабінеце №1 ДАІ Маладзечна (вул. Прафсаюзная, 1). Больш поўную інфармацыю па замене вадзіцельскага пасведчання, здачы экзаменаў можна атрымаць па тэл. 60403 у Маладзечне і па тэл. 32716 у Смаргоні.

*Падрыхтаваў Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

# Новыя тэхналогіі скажуць «STOP» замежнай сыравіне




*Раніца. Усе на рабочых месцах.*
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*МАЛАДЗЕЧНА. Усю сыравіну завод парашковай металургіі купляе за мяжой, за валюту. І ніякія дагаворы паміж краінамі не ыратуюць вытворцаў. Таму на ЗПМ плануюць перайсці да новых тэхналогій і часткова адмовіцца ад замежных пастаўшчыкоў. А замест "залатога" па цэнах парашку мусяць выкарыстоўваць свой — адходы вытворчасці Мінскага падшыпнікавага завода — для вытворчасці фрыкцыйных дыскаў для мінскага і харкаўскага трактарных заводаў. Пакуль жа кіраўніцтва прадпрыемства пра стан спраў гаворыць асцярожна: "Тэндэнцыя да паляпшэння ёсць. І надалей будзе ўмацоўвацца".*

Рашэнне аб будаўніцтве завода парашковай металургіі ў савецкія часы прымалася на самым высокім узроўні. Усе тэрміны агаворваліся ў кабінетах ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР. Першую чаргу прадпрыемства запусцілі 16 год таму. Разам з вытворчымі карпусамі ўзніmaліся шматпавярхоўкі новага мікраёна. Менавіта з крэсла дырэктара ЗПМ **Генадзь Карпенка** ў свой час пайшоў у вялікую палітыку. Цяпер перад кіраўнікамі завода, колькасць якога зменшылася да 530 чалавек, стаяць зусім іншыя пытанні.

– Заработная плата на вытворчасці – быццам люстэрка стану спраў, – гаворыць галоўны інжынер ЗПМ **Генадзь Сыраежка**, – а ў нас заробткі невялікія. Хаця тры апошнія гады выплату не затрымліваем.

Праблем на прадпрыемстве шмат. Не сакрэт, што 90% станочнага парка зношана. Не хапае кваліфікаваных рабочых. Калі становішча карэнным чынам не палепшыцца, гады праз тры прадпрыемства адчуе моцны кадравы голад. Тым не менш, ЗПМ пакрыху выходзіць з тупіка.

**– Радыёзавод "Спадарожнік" не так даўно рэкламаваў дзіцячую цацку "Закаці шарык". Вы таксама выпрабляеце тавары народнага спажывання?**

– Доля ТНС у нашай вытворчасці складае каля 40%. Штогод працэнтаў на 20 асвойваем выпуск новай прадукцыі. І не толькі тавараў народнага спажывання.

**– Нейкае новае абсталяванне ўдаецца набываць?**

– Большай часткай, рамантуем старое. Напрыклад, сёлета адновім 3 прэсы германскай вытворчасці.

Здаецца, кіраўніцтва завода не корміць сваіх работнікаў абяцанкамі, а шукае шлях да лепшай долі. І не робіць з гэтага сакрэтаў.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Паляцеў «пеўнік» па вёсцы

*ВІЛЕЙКА. Напрыканцы мінулага тыдня вёска Нарача ўсю ноч тушыла падпалы.*

Спачатку задыміла канапа на верандзе цаглянага калгаснага дома. Цудам 15–гадовая дзяўчына прачнулася і пабудзіла маці. Пакуль яны ўдвух тушылі канапу, у двары загарэлася паветка з сенам. А яшчэ праз колькі хвілін – суседскі (праз дарогу) хлеў. Агонь знішчыў яго разам з каровай.

Відавочна, што гэта падпалы. Пакуль міліцыя высвятляе сітуацыю, вяскоўцы гавораць, што ведаюць "партызана", 18–гадовага "без цара ў галаве". Вяскоўцы нават шкадуюць, што ў рэспубліцы не існуе "суд Лінча". Яны ўпэўненыя, што здолеюць самастойна знайсці падпальшчыка і пакараць яго.

*Аддзел інфармацыі — па матэрыялах інспектара дзяржпажнагляду Алены АЛЬФЕР.*

З УСМЕШКАЙ

## Вілейчанін усміхаецца ў вус

### Мужык вінаваты

Паставіла жонка ў печ валёнкі мужыковыя сушыць. Жар з печы добра не згрэбла, у адным валёнку ўся падэшва выгарала.

– Што ж рабіць? – спалохалася. – Дасць мне цяпер мужык!.. Ат, што будзе, тое і будзе, – вырашыла яна і паставіла валёнкі зноў у печ.

А тут сусед паклікаў іх у госці. За сталом жонка гаворыць:

– Пойдзем дадому, а то валёнкі згараць.

– Няхай гараць, – адмахнуўся муж, бо хацеў яшчэ выпіць.

Прыйшлі, нарэшце, дадому. Жонка адразу кінулася да печы. Схапіла валёнкі і паказвае мужу:

– Я ж гаварыла – валёнкі згараць. Сам вінаваты!

### Аналогія

– Сёння будзем вывучаць аналогію, – гаворыць настаўнік. – Напрыклад, я гавару: "Хто апячэцца, баіцца агню". А хто скажа нешта па аналогіі?

– Каго памылі, той баіцца вады, – адказвае Васілёк.

*Падрыхтавала Алена АЛЬФЕР.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 20 студзеня | 27 студзеня |
|---|---|---|
| Долар | 342,00 руб. | 353,00 руб. |
| Марка Герм. | 177,26 руб. | 180,82 руб. |
| Літ | 85,51 руб. | 88,22 руб. |
| Рас. руб. | 12,00 руб. | 12,36 руб. |
| Злоты | 83,47 руб. | 85,62 руб. |
| ЕЎРА | 346,69 руб. | 353,65 руб. |

## «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

Долар .................. 860 – 900 руб. .................. 880 – 920 руб.

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 19.01 | 26.01 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 920 | 980 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 3007 | 3300 |
| Сасіскі | 1 кг | 990 | 990 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 695 | 690 |
| Рыс | 1 кг | 400 | 400 |
| Грэчка | 1 кг | 540 | 550 |
| Цукар | 1 кг | 260 | 258 |
| Алей | 1 л | 680 | 680 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 400 | 365 |
| Маянэз | 250 г | 160 | 160 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 350 | 320 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 220 | 220 |
| Лімоны | 1 кг | 980 | 980 |
| Апельсіны | 1 кг | 620 | 625 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 200 | 180 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 600 | 700 |
| Масла | 1 кг | 1100 | 1200 |
| Тварог | 1 кг | 400 | 600 |
| Малако | 1,5 л | 200 | 250 |
| Бульба | вял. вядро | 700 | 700 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 500 | 500 |
| Яблыкі | 1 кг | 400 | — |
| Капуста | 1 кг | 130 | 100 |
| Морква | 1 кг | 300 | 300 |

ДАВЕДКА «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ»

***Апошнім часам адбыліся змены ў раскладах руху транспарта. Удакладненыя расклады прапануем вашай увазе. У наступных нумарах «РГ» змесціць таксама расклады руху цягнікоў і аўтобусаў – па станцыі і аўтавакзале Маладзечна адпаведна.***

## Расклад руху электрацягнікоў

па ст. Маладзечна (па стане на 28.01)

| Маладзечна адпр. | Мінск прыб. | Без прыпынкаў | Мінск адпр. | Маладзечна прыб. | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 4.30 | 6.12 | Сел., Кр. | 4.28 | 6.04 | |
| 5.30 | 7.17 | | 5.24 | 7.08 | |
| 6.03 | 7.45 | Сел., Кр. | 6.32 | 8.12 | |
| 6.30 | 8.19 | | 6.55 | 8.19 | |
| 7.42 | 9.29 | | 7.36 | 9.26 | |
| 8.26 | 10.13 | | 8.20 | 10.06 | |
| 8.59 | 10.47 | | 9.00 | 10.48 | |
| 9.46 | 11.34/11.44 | | 9.41 | 11.20 | вых. |
| 10.47 | 12.36 | | 9.53 | 11.41 | |
| 11.41 | 13.21 | вых. | 11.03 | 12.51 | |
| 12.55 | 14.43 | | 12.00 | 13.47 | |
| 13.42 | 15.29 | | 12.56 | 14.42 | |
| 14.34 | 16.24 | | 13.38 | 15.19 | |
| 15.31 | 17.19 | | 14.59 | 16.40 | птн, вых. |
| 16.02 | 17.34 | Сел., Кр., Ласі, Рам., Вяз., Ан., Хм., Зял.; Крыж. – птн, вых. | 15.21 | 17.10/17.17 | |
| 16.26 | 18.13 | | 16.15 | 18.02 | |
| 17.18 | 19.03 | | 16.50 | 18.44 | |
| 17.50 | 19.36 | | 17.35 | 19.22 | |
| 18.27 | 20.13 | | 18.28 | 20.15 | |
| 19.48 | 21.28 | Хм., Леб. | 19.13 | 21.00 | |
| 20.26 | 22.08 | Леб. | 20.24 | 22.10 | |
| 21.05 | 22.50 | Леб., Сел. | 21.30 | 23.14 | |
| 22.25 | 23.56 | Сел., Ласі, Баяры, Прал., Ан., Хм., Зял., Крыж., М.М., Леб. | 22.33 | 0.11 | |

## Расклад руху прыгарадных цягнікоў па ст. Маладзечна

| Маладзечна адпр. | Гудагай прыб. | Заўвага | Гудагай адпр. | Маладзечна прыб. | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 8.37 | 10.18 | | 5.20 | 7.05 | |
| 13.20 | 15.09 | вых. | 10.36 | 12.15 | |
| 15.41 | 17.24 | | 15.30 | 17.20 | вых. |
| 18.04 | 19.54 | | 17.39 | 19.18 | |
| 20.40 | 22.09 | | 20.24 | 22.07 | |

| Маладзечна адпр. | Ліда прыб. | Заўвага | Ліда адпр. | Маладзечна прыб. | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 8.30 | 11.43 | | 4.13 | 7.30 | |
| 12.33 | 15.47 | вых. | 8.47 | 12.10 | |
| 17.58 | 21.26 | | 12.00 | 15.20 | вых. |
| 20.32 | 23.46 | | 16.09 | 19.27 | |

| Маладзечна адпр. | Крулеўшчына прыб. | Заўвага | Крулеўшчына адпр. | Маладзечна прыб. | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 8.29 | 10.53 | Пол. 13.03 | 4.35 | 6.59 | |
| 12.27 | 14.56 | вых. | 15.18 | 17.40 | вых. |
| 20.35 | 22.56 | | 17.07 | 19.38 | адпр. з Пол. у 14.38 |

*Даведкі па тэл. у Маладзечне 005.*



© PDF: Kamunikat.org 2019
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2019

